**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№ 27 (587) 7 ліпеня 2011 года.

Кошт свабодны.

Докшыцкі раён

# Хто шукае, той знаходзіць

■ Станіслаў Раманчук

**Асабліва цяпер, калі і ў нас пачаўся эканамічны крызіс, варта не апускаць рукі і шукаць на любой вытворчасці надзейных партнёраў для сябе.**

Такім метадам дзейнічае зараз калектыў бягомльскага завода «Ветразь», што ў Докшыцкім раёне, на чале з дырэктарам Анатолем Сіўко. Здавалася б, справы тут наладжаны добра з галаўным прадпрыемствам – “Магілёўліфтмаш”, але маркетолагі шукаюць і знаходзяць новыя выгадныя кантракты: напрыклад, для аднаго кліента штомесяц вырабляюць па 50 тон розных цвікоў. Пачалі перамовы і з адной італьянскай кампаніяй аб адкрыцці сумеснай вытворчасці па вырабе посуду з антыпрыгарным пакрыццём. За ўласныя сродкі на заводзе набылі абсталяванне па вырабе пружынных гроверных шайбаў, якія раней у краіну завозіліся з Украіны. Дадатковыя працоўныя месцы прынесла прадпрыемству адкрыццё ўласнага невялікага швейнага цэха і заводскай цырульні. Дарэчы, ніколі такога не было, каб колькасць жадаючых працаўладкавацца на “Ветразь” дасягнула па папярэднім запісе ўжо 100 чалавек. Заробкаў памерам да 1,4 млн. рублёў у месяц не маюць на большасці прадпрыемстваў і арганізацый у райцэнтры, таму ў гарпасёлку за яе трымаюцца. Завод стаў асноўным карміцелем для многіх жыхароў і сёлета змог адчувальна нарасціць аб’ёмы прадажу сваёй прадукцыі.

Пастаўскі раён

# Інвестыцыі – патрабаванне часу

■ Кастусь Александровіч

**Услед за сталіцай і буйнымі гарадамі і ў глыбінцы нарэшце зразумелі важнасць узаемадзеяння з унутранымі і замежнымі бізнесменамі і фірмамі.**

У гэтай сферы Паставы першымі сярод раёнаў вобласці арганізавалі і правялі ў райцэнтры першы эканамічны міжнародны інвестыцыйны форум. Аб яго правядзенні задумаліся яшчэ ў 2010 годзе і вырашылі сумясціць гэта са штогадовым буйным міжнародным фестывалем народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”. У запрашэннях наведаць гэта свята мастацтва знайшлося месца і для прадстаўнікоў дзелавых колаў. У выніку ў горад прыбыла група бізнесменаў аж з Кітая, якая вельмі дэталёва цікавілася прапановай аб сумесным узвядзенні сучаснага міні-завода па вытворчасці цвёрдых сыроў па безадходнай тэхналогіі. На самім жа форуме быў падпісаны дагавор з расійскім інвестарам на суму 1,2 млн. долараў на праект рэканструкцыі палаца Бішэўскага ў гарпасёлку Лынтупы. Расійскія фірмы выказалі зацікаўленасць аб узвядзенні ў Паставах буйнога гандлёвага цэнтра і сучаснай АЗС. Літоўскіх бізнесоўцаў зацікавілі прапановы мясцовых вытворцаў аб будаўніцтве цэха па вэнджанні рыбы, выпуску пелет з кастрапліты для рэалізацыі ў краінах ЕС і мэбля з масіву, драўляныя зрубы. Другі па ліку падобны форум рыхтуецца ўжо сёлетняй восенню. Дарэчы, услед за пастаўчанамі такое значнае эканамічнае мерапрыемства правялі затым у Браславе і ў Глыбокім.

Браслаўскі раён

# Зацікавіў азёрны край

■ Чэслаў Якубовіч

**Па ўсёй краіне і ў бліжэйшым замежжы людзі ведаюць пра незвычайную прыгажосць азёрнага Браслаўскага краю, на тэрыторыі якога размешчана толькі буйных азёр больш за 250.**

Таму не дзіўна, што тут у маляўнічых кутках створана 112 агратурыстычных гаспадарак. Узнікла задума аб’яднаць гэтыя сядзібы для прыёму гасцей у сапраўдны турыстычны курорт. Але пакуль яна ажыццявіцца пры ўмове далейшага развіцця інфаструктуры, дарог і камунікацый, мясцовы патэнцыял зацікавіў нават далёкую Італію. Праз беларускае пасольства на Апенінскім паўвостраве з кіраўніцтвам раёна звязалася мэрыя курортнага горада Іск”я. Ён размешчаны ў цэнтры аднаго з самых вялікіх астраваў пасярод Неапалітанскага заліва і развіваецца як турцэнтр па прыёме адпачываючых з дзяржаў усходняй Еўропы і Расіі. Дасягнута дамоўленасць, што напрыканцы ліпеня на працягу 6 дзён італьянцы азнаёмяцца з Браслаўшчынай, наведаюць базы адпачынку нацпарка “Браслаўскія азёры”, мясцовыя помнікі гісторыі, архітэктуры, музеі і храмы. Італьянскіх гасцей цікавіць і магчымасць зімовага адпачынку ў азёрным краі. Адной з мэт гэтай паездкі стане пошук патэнцыйных партнёраў у гэтым бізнесе, бо папярэдне іх можна знайсці ўжо ў электронным каталогу айчынных аграсядзіб. Услед за гэтым беларускі бок запрошаны з візітам для наладжвання далейшых узаемавыгадных сувязей.



# Лічба нумара

**13** – столькі краін Еўропы ў той ці іншай ступені пацярпелі ў пачатку лета ад эпідэміі заражэння высокапатагеннай кішэчнай палачкай. У чарговы раз нават самы цывілізаваны кантынент свету пераканаўся, наколькі ён можа быць безабаронным пры праявах новай заразы. Ужо на сярэдзіну чэрвеня колькасць ахвяр бактэрыі Escherichia coli дасягнула амаль 40 чалавек, каля 3 тысяч чалавек захварэлі ў вострай форме, і таму сярод еўрапейцаў назіралася пэўная паніка.

Прыйшлося вучоным і спецыялістам паламаць галаву над тым, што выклікала гэту непрыемную сітуацыю. Праўда, з цягам часу колькасць захварэўшых пайшла на спад, але расслабляцца рана. Вось і ў Беларусі дзейнічала забарона на транзіт сырой агародніны з гаспадарак Еўрасаюза ў Расію. З самага пачатку прычынай гэтай смяротнай гісторыі нямецкія эксперты сталі называць агуркі, завезеныя з Іспаніі. Але гэта была памылка, якая ў выніку вельмі дорага абышлася іспанскім сялянам, якія вырошчвалі гэту культуру і атрымалі прамыя страты ў памеры больш за 200 млн. еўра.

У рэшце рэшт фінансавыя праблемы неяк можна было вырашыць, і адпаведныя захады Брусель прыняў. А вось разабрацца ў прычынах узнікнення гэтай эпідэміі аказалася складаней. Агуркі неўзабаве рэабілітавалі, як аказалася, не яны сталі крыніцай узнікнення злобнай бактэрыі, што выклікала інфекцыю. Эпідэміёлагам Германіі прыйшлося працаваць у напружаным рытме і апытваць захварэўшых людзей наконт таго, якія прадукты яны спажывалі апошнім часам. Можна ўявіць, колькі праверак было праведзена на фермах, у парніковых гаспадарках і шматлікіх крамах.

Інфармацыя пра быццам прарошчаныя расткі соі як крыніцу інфекцыі не пацвердзілася, бо 23 тэсты на розных фермах далі адмоўныя вынікі. Праўда, смертаносныя бактэрыі неўзабаве былі знойдзены ўжо на растках буракоў у суседняй Галандыі. Версія аб крыніцы гэтай хваробы знайшла пацвярджэнне ў прарошчаным насенні бабовых. Да іх адносяцца гарох, чачавіца і фасоль і іх пабегі. Але дэталёва пацвердзіць і гэтыя дадзеныя таксама аказалася складана, бо мноства сырой гародніны проста знялі з продажу. Цэлыя фуры свежых агуркоў і памідораў, іншай гародніны былі не прададзены і вывезены тонамі на сметнікі.

Істотныя эканамічныя цяжкасці нечакана абрушыліся на шэраг еўрапейскіх краін, празмерна пільны галоўны санітарны ўрач Расіі Г. Анішчанка ўвёў забарону на завоз з ЕС гэтых свежых прадуктаў. Прыйшлося экстрана сабрацца ў Люксембургу міністрам сельскай гаспадаркі ўсіх 27 дзяржаў-членаў Еўрасаюза і вырашыць, як кампенсаваць велізарныя страты гэтай галіне і выдзеліць на гэта 210 млн. еўра. У той самы час летам заўсёды існуе большая верагоднасць заражэння рознымі кішэчнымі інфекцыямі ў перыяд гарачыні.

У суседняй з намі Украіне здарылася новая бяда: у горадзе Марыупалі Данецкай вобласці была зафіксавана халеры. Колькасць захварэўшых дасягнула 15 чалавек, прыйшлося ўвесці жорсткі каранцінны кантроль. Дайшло нават да закрыцця пляжаў у спёку ў акваторыі Азоўскага мора. Забаранілі таксама лавіць і наогул есці злоўленую рыбу. У нашай краіне была таксама ўведзена забарона на выкарыстанне імпартнай садавіны і гародніны для прыгатавання свежых салатаў і іншых страў ва ўсіх без выключэння пунктах грамадскага харчавання, сталовых і рэстаранах.

За беларусамі, якія прыбываюць з закранутых кішэчнай інфекцыяй краін узмацнілі ветсанітарны кантроль. А самі людзі павінны ведаць, што сімптомамі гэтай хваробы з’яўляюцца высокая тэмпература, рвота і дыярэя крывёй. Пры падобных прыкметах неабходна неадкладна звяртацца да ўрача і не займацца самалячэннем. Курс жа лячэння кішэчнай інфекцыяй у Еўропе звычайна працягваецца 10 сутак. Не будзем губляць пільнасць, паколькі ў шэрагу выпадкаў агрэсіўны штам ранейшай няшкоднай бактэрыі пачаў мутацыю і не баіцца асноўных антыбіётыкаў. Вучоныя пакуль не могуць гэта растлумачыць, а нам застаецца вельмі пільна адносіцца да асабістай гігіены і назіраць за далейшым развіццём падзей.

## Надвор’е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 07.07.11 | | | | пятн. 08.07.11 | | | | сб. 09.07.11 | | | | нядз. 10.07.11 | | | | пн.11.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +13 | +17 | +22 | +19 | +13 | +19 | +25 | +22 | +16 | +22 | +28 | +22 | +18 | +19 | +24 | +20 | +16 | +21 | +27 |
| Ціск, мм | 740 | 741 | 742 | 743 | 743 | 745 | 745 | 745 | 745 | 746 | 745 | 745 | 746 | 747 | 747 | 747 | 746 | 746 | 746 |
| Вільготнасць, % | 100 | 85 | 58 | 84 | 100 | 76 | 49 | 82 | 100 | 80 | 50 | 84 | 100 | 95 | 72 | 85 | 100 | 79 | 47 |
| Вецер м/сек | Ю 1 | Ю-З 1 | В 1 | Ю-В 1 | З 2 | З 2 | З 1 | З 1 | Ю-З 3 | Ю-З 3 | Ю-З 3 | З 3 | З 5 | С-З 6 | С-З 5 | С-З 2 | С-З 3 | З 2 | З 1 |

## Дзень за днём

**Апошні месяц сёлетняй вясны стаў самым "чорным" для беларусаў з-за рэкорднай інфляцыі – 13,1 %, за 5 месяцаў года рост цэн склаў 25,4 %. Імпартныя лекі падаражэлі ў краіне яшчэ ў 2-3 разы, пры шэрагу цяжкіх хвароб без грошай на медыкаменты цяпер можна і памерці.**

**МВФ прапанаваў ураду і Нацбанку РБ правесці поўную лібералізацыю валютнага рынку, інакш абмежаванні могуць вызваць таварны дэфіцыт. З-за цяжкасцей у эканоміцы ўвялі абмежаванні на вываз асобных тавараў і паліва з РБ і спынілі льготнае крэдытаванне будаўніцтва жылля.**

# Важнейшыя навіны свету

**Лівія.** Пераходны ўрад паўстанцаў прызналі ўжо 13 краін свету, да іх далучылася Германія, лівійцы пачалі першыя пастаўкі нафты ў ЗША танкерамі Ліберыі па кантракце.

**Турцыя.** Пасля гібелі 4 расійскіх турыстаў паліцыя канфіскавала 7 тысяч бутэлек падробных віскі, арыштавала 22 чалавек па ўзбуджанай справе аб наўмысным забойстве.

**Літва.** Папулярны штотыднёвік "Veidas" спрагназаваў, што Беларусі, напэўна, не ўдасца пабудаваць АЭС за 50 км ад Вільні з-за крызісу, бо на адну інфраструктуру трэба 3 млрд. $.

**Куба.** Цудам пазбегнуў заражэння крыві прэзідэнт Венесуэлы Уга Чавес, яму экстрана зрабілі аперацыю пасля абсцэсу ўнутры таза .

**Расія.** Прычынамі вострага крызісу ў Беларусі расійскі пасол А. Сурыкаў назваў напаўненне эканомікі пустымі грашыма і жыццё не па сродках, пачынаючы з 2007 года.

**Іспанія**. З-за агароднінай панікі фермеры краіны толькі на агурках гублялі штотыдзень да 75 млн. еўра, яны на рынках Мадрыда бясплатна раздалі амаль 40 тон памідор, агуркоў.

**Азербайджан.** Расія рэзка выступіла супраць будаўніцтва па дне Каспійскага мора Транскаспійскага газапровада да Туркменіі і Казахстана.

**Украіна.** Актывы самага багатага ўкраінца Рэната Ахметава дасягнулі 25,6 млрд. $ і за мінулы год выраслі на 8 млрд. Апроч металургіі, ён валодае і багатым ФК "Шахцёр".

**Турцыя.** Двойчы перакуліўся аўтобус з беларускімі турыстамі на дарозе да аэрапорта горада Бодрум, калі заснуў за рулём кіроўца, 15 пасажырам з дзецьмі аказалі меддапамогу.

**ЗША.** Адразу 77 курсантаў рэзерву авіяцыі краіны прыйшлося шпіталізаваць пасля моцнага ўдару маланкі па адной з апор ЛЭП ваеннага вучэбнага цэнтра ў штаце Місісіпі.

**Швейцарыя.** Эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ўпершыню заявілі, што частае карыстанне мабільнымі тэлефонамі прыводзіць да развіцця раку мозга тыпа гліёмы.

**Расія**. Існуючая ў РБ сістэма, як адзначыў палітолаг Кірыл Коктыш, сябе вычарпала, беларусам патрэбны 7-8 млрд. $, пазбегнуць сацыяльных выбухаў можа прыватызацыя.

**Літва.** Парламент краіны прыняў закон аб новым пенсійным узросце з 2025 года – 65 гадоў для мужчын і жанчын, штогод узрост выхаду на пенсію павышаецца на месяцы.

**Латвія.** Новы прэзідэнт, 66-гадовы Андрыс Берзіньш, не стаў адмаўляцца, што ў яго самая вялікая пенсія ў краіне і што, апроч 2 дарослых дзяцей, мае сына 6 гадоў ад сужыцелькі.

**Англія.** Вучоныя назвалі 10 падстаў для шчасця: сяброўскія зносіны, заняткі спортам, самаадукацыя, любаванне прыродай, прыняцце сябе такім, які ёсць, аптымізм у жыцці.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** Расійская кампанія С. Керымава "Нафта Масква" амаль дамовілася з уладамі РБ аб набыцці 50 % акцый ААТ "Беларуськалій" на суму каля 15 млрд. долараў.

**Мінск.** Карпарацыя "Інтэр РАО ЕЭС" аднавіла ранейшыя аб'ёмы паставак электраэнергіі ў РБ пасля падпісання графіку пагашэння доўгу 55 млн. $.

**Гродна.** Пасля разгону акцыі пратэсту на пункце пропуску Брузгі былі арыштаваны 22 чалавекі, іх аштрафавалі ў сярэднім па 2,8 млн. рублёў, забаранілі выезд з Беларусі.

**Асіповічы.** Новая сучасная фабрыка касметыкі і бытавой хіміі коштам 30 млн. $ пачала тут выпуск айчыннага пральнага парашку "Мара" коштам 5 тысяч рублёў за пачку.

**Мінск.** Кіраўнік Аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Л. Заіка заявіў, што з-за няправільных дзеянняў урада РБ краіну чакае рост беспрацоўя, асноўныя цяжкасці яшчэ наперадзе.

**Смаргонь.** Пад коламі грузавога цягніка каля 5 гадзін раніцы трагічна загінуў 37-гадовы маёр міліцыі аддзела АБЭП, які праходзіў па чыгуначным мосціку праз раку Оксна.

**Мінск.** У гаротным становішчы апынуліся тысячы сем'яў беларусаў, якія ўзялі валютныя крэдыты ў банках краіны, ім немагчыма вярнуць каля 400 млн. $, бо валюту не купіць.

**Брэст.** Упершыню ў РБ у мясцовым раддоме ад свайго дзіця адмовілася мама-ізраільцянка, малога перавезлі ў дзіцячы цэнтр Мінска і перадалі консулу Ізраіля.

**Мінск.** За незамкнёныя дзверы метро станцыі "Маскоўская" пазбавіўся пасады 61-гадовы начальнік сталічнага метрапалітэна Мікалай Андрэеў, ён кіраваў ім з 1999 года.

**Гродна.** Без працы засталіся 293 работнікі РУП "Гроднатэкстыль" пасля яго ліквідацыі з-за банкруцтва, так вырашылі канцэрн "Беллегпрам", Мінэканомікі РБ, улады вобласці.

**Кобрын.** На мяжы банкруцтва апынуўся кансервавы завод і агракамбінат Гарынь, вялікія праблемы ў калег з Баранавіч, раней ліквідавалі канцэрн "Брэстгароднінапрам".

**Гомель.** У вёсцы Каранёўка нечакана абрушылася днём воданапорная вежа вышынёй 15 м 1984 года пабудовы, пацярпеў вадзіцель, без вады былі СШ, дзетсад і больш за 400 дамоў.

**Лельчыцы.** Па незразумелых прычынах ноччу згарэў разам з апаратурай Дом культуры вёскі Дзяржынск, праверкі МНС забаранілі эксплуатацыю яшчэ 10 такіх устаноў у раёне.

**Ганцавічы.** Для правядзення Дня беларускага пісьменства ў райцэнтры не хапае на добраўпарадкаванне запланаваных аб'ектаў больш паловы сродкаў, 47 млрд. рублёў.

**Мінск.** Хітом Інтэрнэту за некалькі дзён стаў новы мультфільм рэжысёра Юліі Рудзіцкай пра "шалёны беларускі народ", толькі на You Tube яго прагледзелі больш за 110 тысяч разоў.

**Баранавічы.** Мясцовая прыгажуня, студэнтка 5 курса БДУІР Наталля Швец выйшла замуж за вядомага спартсмена Антона Кушніра, іх сяброўства доўжылася 4 гады.

## МТС павялічыць кошты на 10%




■ **TUT.BY**

Мабільны аператар МТС паведаміў пра павышэнне з 11 ліпеня 2011 года кошту паслуг па некаторых тарыфных планах у сярэднім на 10%. У афіцыйным паведамленні гаворыцца, што з 11 ліпеня 2011 года змяняюцца тарыфы на ўнутрысеткавыя званкі, званкі ў іншыя сеткі і SMS-паведамленні, а таксама памер штомесячнай платы па асобных тарыфных планах. Тарыфы на карыстанне мабільным інтэрнэтам застаюцца на ранейшым узроўні. Змены не кранучь таксама памераў штомесячных плацяжоў па растэрміноўцы за абсталяванне ў рамках раней складзеных дамоў.

"Павышэнне тарыфаў абумоўлена павелічэннем выдаткаў кампаніі, а таксама планамі працягнуць інвеставанне ў развіццё сеткі, у запуск паслуг і сэрвісаў на аснове найноўшых тэхналагічных рашэнняў, - адзначыў генеральны дырэктар СООО "МТС" Уладзімір Карпавіч. - Мы паспрабавалі падысці да гэтага няпростага рашэння максімальна гнутка, з улікам таго, якімі паслугамі МТС і ў якім аб'ёме карыстаюцца нашы кліенты. Без змены застануцца кошты на паслугі інтэрнэт, асобныя сегментаваныя тарыфы ("Адмысловы", "Блізкі. Для пенсіянераў"), а таксама абавязкі па абсталяванні, набытым у растэрміноўку. У выніку, па нашых разліках, у сярэднім штомесячныя выдаткі абанента ў беларускіх рублях павялічацца на 10%".

Змены не крануць структуры тарыфаў: для тарыфаў без абаненцкай платы захоўваецца яе адсутнасць, не змяняецца колькасць паслуг, уключаных у тарыфны план, да тарыфаў "Выдатны", "Усё для зносін", "Крыжыкі-Нулікі", паслугі "Тэрміновы безліміт" і інш. Кошт нулявой хвіліны не змяняецца.

Падрабязна з новымі тарыфамі можна азнаёміцца з 10 ліпеня 2011 года на сайце www.mts.by.

## Уступілі ў дзеянне адзіныя стаўкі пошлін

■ **ПортаL**

У Беларусі з 1 ліпеня 2011 года ўступілі ў дзеянне адзіныя стаўкі пошлін трох краін Мытнага саюза (Расіі, Беларусі, Казахстана) на ўвазныя фізічнымі асобамі аўтамабілі. Стаўкі мытных пошлін для беларускіх грамадзян выраслі да 10 разоў у залежнасці ад аўтамабіля.

Гэта значыць, што за аўтамабіль старэй за пяць гадоў з 3,0-літровым рухавіком прыйдзецца заплаціць мыту больш за 17 тыс. еўра.

Два апошнія месяцы беларусы адкрылі сапраўднае паляванне за замежнымі аўто. Усяго ж з пачатку года ў краіну было ўвезена больш за 180 тыс. аўтамабіляў.

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка паабяцаў, што ўзгодніць тарыфы ў бок іх памяншэння або арганізуе зборку машын на тэрыторыі краіны.

Аднак рэзкі скачок коштаў абурае жыхароў краіны, многія з якіх ужо сумняваюцца ў неабходнасці ўдзелу ў гэтым саюзе.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Генпракуратура Беларусі прадоўжыла тэрмін расследавання па крымінальнай справе аб выбуху ў метро 11 красавіка, па ёй праходзяць два ўраджэнцы абласнога цэнтра.

**Верхнядзвінск.** У трох вагонах з вуглём на станцыі Бігосава пагранічнікі знайшлі 65 тысяч пачак цыгарэт на суму 78 млн. рублёў, кантрабандны тавар пайшоў у даход дзяржавы.

**Глыбокае.** На МКК пачалі распрацоўваць неабходную дакументацыю на экспарт сваёй лепшай прадукцыі ў ЕС, сёлета ў 1-м квартале знешнегандлёвае сальда было + 11,2 млн. $.

**Сянно.** Пасля двух гадоў прастою аднавілася будаўніцтва новай базавай школы ў вёсцы Літусова замест старой аварыйнай, гатовы ўжо фундамент, пачаў узводзіцца 1-ы паверх.

**Талачын.** Работнікі калгаса "Абольцы" выказаліся супраць далучэння іх гаспадаркі да больш буйной і моцнай "Надзежына", хоць начальства прымушае іх гэта зрабіць.

**Лёзна.** У некалі буйной вёсцы Ордзеж не засталося ніводнага школьніка, разваліліся ферма і воданапорная вежа, засталася дажываць свой век пенсіянеры і адзін фермер.

**Віцебск.** На час "Славянскага базару" «Беларуская чыгунка» па 16 ліпеня прызначыла новы хуткі цягнік на Мінск штодзень і назад з працягласцю паездкі ўсяго 3,5 гадзіны.

**Орша.** Пры лоўлі рыбы з берага Дняпра каля парка патануў 38-гадовы рыбак, ён страціў прытомнасць у гарачыню на падпітку, упаў галавой у ваду і загінуў.

**Браслаў.** Падчас інвестыцыйнага форуму раён заключыў дагавор аб супрацоўніцтве з паветам Хайнуўка Падляскага ваяводства Польшчы, латышам цікавыя будматэрыялы.

**Паставы.** Мясцовы ВІА "Скіфы" пад кіраўніцтвам Віктара Верацельнікава заняў 2-е месца на абласным конкурсе памяці народнага песняра Беларусі Уладзіміра Мулявіна.

**Віцебск.** Да дня горада насупраць будынка гарадской ратушы на пастаменце з'явілася бронзавая фігура князя Альгерда на кані, пры ім былі пабудаваныя два замкі над Дзвіной.

**Полацк.** Яшчэ лета толкам не пачалося, а санслужба забараніла купанне ў зонах адпачынку адразу на 4-х азёрах раёна – Гомель, Янова, Суя і Шчаты з-за бактэрый у вадзе.

**Віцебск.** З афіш канцэртаў фестывалю "Славянскі базар" знік сольны канцэрт вядомага парадыста М. Галкіна, аднак на іншыя сольнікі зорак білеты ў крызіс людзі разабралі.

**Наваполацк.** За сродкі, сабраныя гараджанамі, на цэнтральнай плошчы горада будзе адліты помнік будаўніку.

**Віцебск.** Міністр культуры РБ Павел Латушка выказаўся за змяншэнне працягласці фестывалю "Славянскі базар" і за прыцягненне для яго арганізацыі прыватнага капіталу.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Нас чакае гістарычная падзея

■ Кс. Андрэй Кулік

Рэлігійнае жыццё ў Падсвіллі аднаўляецца – такімі словамі больш за 10 год таму можна было акрэсліць абрад асвячэння вуглавога каменя пад будову новага касцёла. У далёкім ужо 2000 годзе гэтая важная падзея паклала пачатак вялікім намаганням з боку святароў і вернікаў, на якія благаславіў іх тады Віцебскі біскуп Уладзіслаў Блін. І вось нарэшце здзейсніцца тое, аб чым даўно марылі вернікі, - 30 ліпеня 2011 года нас чакае без перабольшвання гістарычная падзея не толькі для каталікоў, але і для усіх жыхароў Падсвілля. У гэты дзень адбудзецца асвячэнне новапабудаванага касцёла. Трэба адзначыць, што Бог сапраўды паказвае нам свае цуды. Бо захаваць веру ў сэрцы, не маючы месца, дзе б яе можна было практыкаваць, – і так на працягу не аднаго дзясятка год – гэта не цуд?

Паважаныя чытачы, раздзяліць нашую радасць і падзякаваць Богу за Яго дабрыню ў гэты дзень прыбудуць шматлікія госці з розных куткоў нашай краіны, а таксама з-за яе межаў. Узначаліць урачыстасць Сакратар Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Польшчы Яго Эксцэленцыя Арцыбіскуп Станіслаў Будзік. Разам са сваімі вернікамі будзе маліцца і Віцебскі біскуп Уладзіслаў Блін. **Запрашаем і ўсіх вас** наведаць 30 ліпеня Падсвілле і прыняць удзел ва Урачыстасцях, пачатак якіх будзе а 12 гадзіне.



Новы касцёл у Падсвіллі чакае асвячэння.

# У Мосары асвечаны помнік кс. Ёзасу Бульку







*Фота Ул. Скрабатуна.*

# Сто сорак глыбоцкіх пілігрымаў прыйшлі ў Будслаў

**1 і 2 ліпеня ў Будславе, на Мядзельшчыне, адбыўся фэст у гонар Маці Божай Будслаўскай, Апякункі Беларусі.**

Штогод там збіраюцца дзясяткі тысяч людзей.

Традыцыя масавых пілігрымак у Будслаў аднавілася за незалежнасцю, на пачатку 1990-х. Вернікі з Беларусі і ўсяго свету прыходзяць да касцёла пакланіцца абразу Нябеснай Апякункі Беларусі. Фэст у Будславе зрабіўся самым велічным, урачыстым і, зрэшты, самым беларускім святам краіны.

Кульмінацыяй фэсту з'яўляецца ўрачыстае шэсце з цудатворнай іконай. Дзясяткі тысяч людзей з запаленымі свечкамі абыходзяць цэнтральную плошчу мястэчка і вяртаюцца да касцёла. Нібы жывая вогненная рака плыве перад велічнай базілікай. Гэта прыгожы і велічны момант, які абавязкова трэба пабачыць на свае вочы, каб адчуць гісторыю і ўрачыстаць свята Маці Божай Будслаўскай.

Гісторыя Будслаўскай святыні пачынаецца з 1504 г., калі Вялікі князь літоўскі Аляксандр падарыў паселішча Буда віленскаму кляштару бернардынцаў. Браты бернардынцы раскарчавалі кавалак пушчы на ўзбярэжжы ракі Сэрвач і ў 1530 паставілі там невялікую драўляную капліцу.

У канцы XVI ст. у Будславе ўжо існавалі касцёл і кляштар бернардынцаў. Тады ж з'явіўся і славуты абраз Маці Божай. Спачатку ён належаў мінскаму ваяводу Яну Пацу. Ваявода прывёз яго з Рыма — як падарунак ад Папы Клімента VIII – пасля пераходу з кальвінізму ў каталіцтва. Пасля смерці ваяводы святыня перайшла да яго капелана. А той ахвяраваў яе касцёлу.

Першы цуд абраза Маці Божай Будслаўскай быў зафіксаваны ў 1617г., калі да пяцігадовага сляпога хлопчыка Язапата Тышкевіча вярнуўся зрок. Пазней гэты хлопчык стаў вядомым ксяндзом кармелітам. У той жа дзень Рэджынальд Тышкевіч пазбавіўся ад падучай хваробы, на якую хварэў сем гадоў. Пасля таго сцэны драўлянага касцёла былі заклееныя сотнямі паперак з просьбамі да Маці Божай Будслаўскай.

Да сярэдзіны XVII ст. на месцы драўлянага паўстаў невялікі каменны касцёл. Для змяшчэння цудатворнага абраза майстра Пятро Грамель у 1649 стварыў разьблёны алтар. А бернардынцы-злотнікі Геранім Плонскі і Бенедыкт Росман вырабілі срэбраныя аздобы для іконы — аклад і ажурную раму.

У 1767 быў закладзены першы камень новага касцёла. Велічная базіліка паўстала за 16 гадоў. Першы, стары касцёл, не знасілі: ён застаўся ў выглядзе бакавога памяшкання храма, у яго можна патрапіць праз дзверы з тыльнага боку вялікага храма. Патрапіць, нібы ў іншую архітэктурную эпоху. З прыземістымі скляпеннямі, галовамі грубавата-сярэднявечных анёлаў на сценах. У малым касцёле і сёння месціцца той драўляны, чорны з золатам, з фігурамі святых, алтар.

Да сярэдзіны XIX ст. Будслаўскі кляштар быў асяродкам не толькі духоўным, але і асветніцкім. Пры кляштары дзейнічала пачатковая школа, музычная школа, быў і шпіталь для бедных.

У 1858г. новая ўлада зачыніла кляштар. Кляштарныя будынкі пасля здушэння паўстання Каліноўскага былі перададзеныя царскім войскам, а пасля зусім разабраныя. Застаўся толькі велічны касцёл.

Яго штодня бачылі вучні першай беларускай гімназіі, створанай у Будславе ў 1918, яго вежы, высока ўзнятыя над навакольнымі лясамі, пэўна, сніў у Канадзе Старшыня Рады БНР Вінцэнт Жук Грышкевіч, народжаны ў Будславе.

За польскім часам будынак касцёла актыўна рэстаўравалі і абнаўлялі. Колькасць вернікаў у парафіі дасягнула сямі тысяч чалавек. Шырылася і традыцыя фэсту. На 1 і 2 ліпеня ў Будслаў з'язджаліся тысячы паломнікаў усіх канфесій. Пазней, у савецкі час, касцёл не перапыняў дзейнасці.

Ніводная спроба сталіністаў узарваць касцёл не атрымалася.

А замах мясцовага сельсаветчыка на цудоўны абраз Маці Божай, кажуць людзі, скончыўся для яго вар'яцтвам і хуткаю гвалтоўнаю смерцю.

Хоць цемрашальства святыня паспытала. Калі ў 1990-я з іконы Маці Божай знялі аклады, каб рэстаўраваць, пабачылі, што яна ў некалькіх месцах прабітая, прастрэленая і нават прапаленая.



**На Беларусь вярнуліся кармеліты? Ва ўсялякім разе ў Будславе былі заўважныя штандары з гербам гэтага манаскага ордэну.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Квітней, Глыбоччына!

■ Яўген Самсонаў

**Са звыш двух дзясяткаў разнастайных цікавых забаўляльных мерапрыемстваў складвалася праграма раённага свята "Квітней, Глыбоччына!", якое традыцыйна штогод адзначаецца 3 ліпеня ў дзень вызвалення г. Глыбокае і Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.**

Што і казаць, апошнім часам дзякуючы намаганням кіраўніцтва раёна, працоўным калектывам (асабліва работнікам жыллёва-камунальнай гаспадаркі, на плячах якой ляжыць асноўны клопат па добраўпарадкаванні горада) значна папрыгажэла наша Глыбокае.

Падчас урачыстасці ў сваёй прамове старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Віктаравіч Морхат выказаў сваю запаветную мару – зрабіць Глыбоцкі раён лепшым не толькі ў вобласці, але і ў краіне.

З гэтай нагоды дазволю сабе зрабіць нейкае адступленне, але яно наўпрост звязана з квітненнем Глыбоччыны.

– А ты ведаеш,– звярнуўся да аўтара гэтых радкоў адзін знаёмы, – калі б ён узначаліў раён дзесьці год на 5 – 10 раней, то з яго размахам мы былі б намнога бліжэй да гэтай мэты. Параўнай, які горад быў паўтара гады таму і цяпер. Шкада, што цяперашні эканамічны крызіс значна ўскладніць задачу.

Я цалкам пагадзіўся з думкай знаёмага.



Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны.

Сапраўды, тэмп уражлівы. Як працуюць глыбоцкія камунальнікі, ведаю дакладна. Большасць з іх, як бы ў пацвярджанне слоў першай асобы краіны, згодна аб'ёму выкананых работ за апошні час працуюць не толькі па 24 гадзіны у суткі – яшчэ працу і на дом бяруць. Вельмі важна для Глыбокага ажыццявіць Праект ЕС аб пабудове новай каналізацыйнай сістэмы. Улічваючы, што гэтым пытаннем займаецца выдатны кіраўнік-гаспадарнік А.В. Жынь, дзякуючы якому горад мае сучасны водазабор і шмат іншага, можна спадзявацца, што гэта экалагічная праблема будзе ўрэшце вырашана.

– Варта ўзяць на ўзбраенне і вопыт суседзяў-пастаўчан, – працягваў знаёмы. Там усе праблемы вырашаюцца супольна, у атмасферы паразумення і добразычлівасці, кіраўніцтвам раёна, кіраўнікамі прадпрыемстваў, камерсантамі і зацікаўленымі грамадзянамі. Жывуць як бы адной сям'ёй.

Напрыклад, патрэбен рамонт палат у бальніцы. Камерсант, узважыўшы свае магчымасці, добраахвотна знаходзіць сродкі. У адрамантаванай палаце вісіць шыльда, і ўсе пацыенты ведаюць фундатара, які стварыў ім адпаведныя камфортныя ўмовы.

Падводзячы вынік нашай размовы, я ўзгадаў, што здзейсніць задуму старшыні райвыканкама было б значна прасцей, каб у нас было мясцовае самакіраванне такое, як, напрыклад, у Польшчы. Там – празрысты бюджэт. Дзяржава толькі атрымлівае 12 адсоткаў падаткаў ад юрыдычных асобаў і больш не мае ніякага дачынення да эканамічнай дзейнасці павета. Астатнія сродкі з усіх падаткаў і датацыі дзяржавы застаюцца ў бюджэце павета. Абраныя ўсенародна дэпутаты і абраны з іх ліку старшыня павета, прытрымліваючыся меркавання выбаршчыкаў, вырашаюць, куды іх патраціць. Ні дзяржава, ні ваяводства не маюць права ўмешвацца ў дзейнасць іх павета, кожны грамадзянін ведае, куды патрачаныя сродкі да апошняга гроша.

Што тычыцца свята, то яно праходзіла весела і задорна. Праўда, нябесная канцылярыя ўнесла свае карэктывы. Найбольш шкада маладых вершніц з коннаспартыўных баз "Залатая Падкова", "Мясакамбінат" і "Птушкафабрыкі". Нягледзячы на залеву, яны ўсё ж выехалі на іпадром і нават спрабавалі спаборнічаць. Залева перашкодзіла правесці ўрачыстае адкрыццё дзіцячай пляцоўкі, канцэрта дзіцячых мастацкіх калектываў, прадстаўлення ўзорнага цырку Шаркоўшчынскага РДК і часткі гульнявых праграм і атракцыёнаў на беразе возера Кагальнае.

Затое гэты цудоўны падарунак дзятве – дзіцячую пляцоўку – гараджане і госці горада на «выдатна» ацанілі яшчэ да цырымоніі адкрыцця.

А незабыўныя хвіліны канцэрта заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Іны Афанасьевай, конкурсная шоу-праграма "Дзве зоркі- 3" і канцэрт-віншаванне самадзейнага кампазітара Ганны Шаколы "Табе, маё Глыбокае" поўнасцю кампенсавалі капрызы надвор'я.

Закончылася свята прыгожым феерверкам і дыскатэкай.



На свята прыехала і Іна Афанасьева паспяваць для глыбачан.

# Візітацыя ў Дзеркаўшчыне

■ Кс. Віктар Місевіч, тэкст і фота.

**3 ліпеня ў Дзеркаўшчыне (Глыбоцкі дэканат Віцебскай дыяцэзіі) адбылася біскупская візітацыя. Парафію наведаў пастыр дыяцэзіі біскуп Уладзіслаў Блін. Гасцінныя парафіяне сустрэлі яго на парозе святыні хлебам і соллю. Пасля ўрачыстага прывітання адбылася св. Імша, падчас якой маладыя вернікі прынялі з рук біскупа Уладзіслава сакрамэнт бежмавання.**

У гаміліі наступнік апосталаў заахвоціў прысутную моладзь будаваць сваё жыццё па евангельскіх прынцыпах. Ён таксама нагадаў пра Панну Марыю, якая сваім жыццём паказала вернасць Божым запаветам.

Пасля ўрачыстай св. Імшы адбыўся святочны канцэрт. Усю праграму падрыхтавалі дзеці і моладзь дзеркаўшчынскай парафіі пад кіраўніцтвам спадарыні арганісткі.

Пробашч парафіі кс. Віталь Галец падзякаваў вернікам за клопат аб парафіі і за падрыхтоўку да візітацыі. Пасля абеду адбылося паседжанне касцёльнага суда Віцебскай дыяцэзіі. На ім быў зацверджаны новы склад суддзяў і раздзеленыя паміж прысутнымі святарамі іншыя судовыя функцыі.

Такім чынам, біскуп Уладзіслаў Блін даверыў адпаведныя судовыя абавязкі наступным святарам:

Афіцыял – кс. Віталь Галец

Віцэ-афіцыял – кс. Павел Самсонаў

Суддзя – кс. Валерый Орсік

Суддзя – кс. Мечыслаў Янчышын

Суддзя – кс. Алег Півавар

Абаронца сужэнскага саюза – кс. Віктар Місевіч

Суддзя і прамотар справядлівасці – кс. Ігнат Санюта

Натарыюс – кс. Аляксей Асон

Абноўлены склад касцёльнага суда пачне сваю працу з восені бягучага года.







■ Роман Мельниченко,
дер. Морги



# В любом месте можно сойти на берег и стать жертвой браконьера

Итак, трагическая ситуация с благополучным исходом.

Но всего лишь несколько дней назад о каком-либо исходе мы не имели представления и были погружены во что-то трагическое, таинственное. А самое ужасное было в том, что не имели понятия, какие действия предпринять. Так как то, что мы делали, давало лишь сотую долю процента на успех – не более. И весь парадокс в том, что не могли не делать эти действия, которые дают такие ничтожные шансы. Выматывались в кровь, но делали, не имея никакой надежды и веры на успех. Делали, делали, делали…

И вот так, преодолевая себя, те чувства, которые нас разрывали изнутри, физическое изнеможение… Меня озарило! Я нашел верное решение, а точнее ошибку, которую мы все допускали.

Все началось ранним вечером. Я занимался строительными работами, связанными с нашей изгородью для животных. Вкапывая очередной массивный столб, услышал не похожий ни на что то ли крик, то ли вопль.

Первое предположение, которое у меня возникло, - это то, что некое дикое животное стало чьей-то жертвой и разрывалось истошным предсмертным стоном.

В первые секунды я пытался осмыслить услышанное, но через минуту, отбросив столбы в сторону, уже бежал по направлению происхождения этих раздирающих уши звуков. Добежал до лесной полосы - вдруг все стихло. Я потерял направление, и вся моя беготня по лесу не имела никакого маршрута. В лесу также метался и мой младший брат. Но лес продолжал сохранять молчание и, вымотавшись, мы вернулись домой. Через полчаса из леса вернулся наш хасик, а трехгодичный двортерьер не появился и по истечение часа. И нас вдруг поразила мысль, что это с НИМ что-то случилось... мы снова бежали в лес в предполагаемом направлении…



Чтобы раздвинуть капкан, нужны усилия взрослого и весомого мужчины.

В этот раз мы услышали один вопль – и снова полная тишина. Возвращаемся домой ни с чем. Вся ночь прошла в предположениях о случившемся. С рассветом наша история снова повторялась и повторялась. Эти действия растянулись на двое суток.

Было все: и непролазные ивовые кусты, и метровые болотные кочки, трехметровый рогоз, жуткий страх попасть в капкан либо провалиться в полутораметровую бобровую яму…

На наш зов собака не откликалась, но по возвращении домой мы опять слышали вой. Снова возвращались в лес и звали – нам отвечала тишина. Особенно было мучительно то ощущение, что мы знали, что вот он где-то рядом, а найти и помочь ему никак не можем. И наш молодой хасик не ведет к своему другу. А когда слышали вопль, то звук так растекался, что было непонятно его направление. И снова тишина, тишина, тишина…

На третий день я просто не поверил брату, что он слышит вой. Но через минуту и сам стал очевидцем завывания пса, повторяющегося с интервалом в 2-3 минуты. Я бегу на звук, зову по имени – и все снова стихает. Возвращаюсь домой. И уже возле дома опять слышу вой. Иду в лес – и в очередной раз возвращаюсь ни с чем. Просто какой-то заколдованный круг.

Вдруг меня осенило. Когда мы зовем собаку, она слышит нас и начинает терпеливо ждать – помощь идет. А не дождавшись, подает голос, прося о помощи. Поэтому я просто сосредоточенно, неторопливо и тихо пошел по направлению издаваемых звуков, пытаясь скрыть свое присутствие, пока воочию не увижу своего пса. Картина оказалась ошеломляющей.

Пес оказался на другом берегу реки. Из воды была видна голова и левая лапа, которой он, уцепившись, держался за обрывистый берег, преодолевая течение реки.

Медленно раздеваясь, дабы обдумать правильность всех своих дальнейших действий, я решил перейти реку вброд. Прозрачная вода оказалась обманчива, через два метра уровень воды вдруг неожиданно оказался на метр выше моего роста. Сильное подводное течение, подхватив меня, понесло за собой. Погруженный в инстинкт самосохранения, автоматически начал применять меры.

И вот я уже рядом со своим псом.

Его опухшие кровавые глаза, в которые десятками вгрызались слепни и оводы, выражали полное непонимание происходящего. А правая лапа, зажатая в капкане, была под водой. Вылезая на берег, я тыкал в густую траву палкой, проверяя наличие других капканов. С большим усилием трясущимися руками вытянул трясущуюся собаку на берег. Но лихорадочные попытки освобождения из капкана были тщетны. Теперь я стремглав летел домой за инструментом и помощью.

По переправе измученного пса через реку нам пригодились просмотренные МЧСовские видеоролики по спасению. Далее нас ожидали два километра метровых кочек, трехметрового рогоза и труднопроходимые заросли лознякового леса. Да… пес оказался очень тяжелым. После – сорок километров на машине… И вот улыбающаяся группа ветеринаров объявляют о том, что пес отделался легким испугом. Да… И не только он… и мы … отделались, правда, – трехсуточным «легким» испугом. У пса оказались повреждены только мягкие ткани, а с заражением крови ему помогли справиться.

Название этой реки Шоша. Её регулярно посещают рыбаки и байдарочники, которые в любом месте могут сойти на берег и быть жертвой браконьера. Так что будьте крайне внимательны, где бы вы ни были.



## Віншаванкі

*Наталлю Генадзьеўну Яніцэвіч*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Желаем всегда и во всём успевать,
Усталости, слабости, горя не знать,
Желаем всегда оставаться счастливой,
Весёлой, хорошей, здоровой, красивой.
Пусть солнце тебя в этой жизни согреет,
Господь для тебя пусть добра не жалеет,
Пусть ветер уносит печали и горе
И радости будет пусть целое море.

*Ад сям'і Шчасных, Будзічаў.*

*Алену Расціславаўну Шарабайку*

**Віншуем з юбілеем!**

Пусть звёзды светятся в глазах твоих,
Пусть счастье, как шампанское, искрится,
Пусть слёзы никогда не блещут в них,
И в сердце пусть печаль не постучится.
Пусть этот день, как песня соловья,
Перечеркнёт всех хмурых дней ненастье,
Пусть жизнь твоя, как майская заря,
Приносит каждый день в ладонях счастье!

*Суседзі Шчасныя.*

*Ірыну Уладзіміраўну Грыль*

**Віншуем з Днём Нараджэння!**

Желаем вам не напиваться,
Лицом с салатом не общаться,
С барменами не целоваться,
И как огурчик возвращаться,
Но не домой, а на работу,
О ближних проявить заботу –
Нас накормить и напоить,
И поздравленья получить!
Не с повышеньем, с днем рожденья!



*Сябры па працы*

# У новым сезоне на беларускім тэлебачанні пачне выходзіць праграма пра родную прыроду

**У верасні на Першым канале беларускага тэлебачання пачне выходзіць праграма аб роднай прыродзе. Пра гэта паведаміла начальнік аддзела інфармацыі і сувязяў з грамадскасцю прэс-сакратар Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Алена Пеняз 14 чэрвеня на пасяджэнні грамадскага каардынацыйнага экалагічнага савета пры Мінпрыроды ў Мінску.**

Паводле слоў Пеняз, за апошні час у краіне не было створана ніводнай рэгулярнай праграмы пра беларускую прыроду і праблемы экалогіі, якую б курыравала Мінпрыроды. Праграма будзе выходзіць штотыднёва, прызначана для шырокага кола гледачоў. Ужо падрыхтавана 30 праблемных тэм прыродаахоўнай тэматыкі для здымак сюжэтаў.

Першы выпуск праграмы ўздыме праблему забруджання атмасфернага паветра, асабліва актуальную для вялікіх гарадоў. Выпуск будзе прымеркаваны да агульнаеўрапейскай акцыі «Дзень без аўтамабіля», якая традыцыйна праходзіць 22 верасня.

Сярод іншых тэм праблема выпальвання сухой расліннасці і арганізацыя раздзельнага збору адходаў. Плануецца падрыхтаваць сюжэты аб распаўсюджанні баршчэўніку Сасноўскага і барацьбе з гэтым чужародным відам, уплыве захаванняў пестыцыдаў на здароўе людзей. Апрача таго, будуць узнімацца праблемы высечкі зялёных насаджэнняў, захавання рэдкіх відаў жывёл і раслін, малых рэк і інш.

Зараз заключаюцца дагаворы паміж Мінпрыроды і кіраўніцтвам Белтэлерадыёкампаніі.



У хуткім часе пачнуцца здымкі праграмы.

Мінпрыроды рэкамендуе грамадскім арганізацыям дасылаць у ведамства прапановы аб сюжэтах для перадачы.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

11 – 17 ліпеня 2011 г.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 11 ліпеня



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00** (с сурдопереводом), **15.00, 19.00, 00.15** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.05, 08.05** Зона Х. Дорожные новости.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** «Горожане-2011»: Афины.
**09.10 «Маргоша»**
**10.05** «Славянский базар в Витебске-2011». Дневник.
**10.15** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Учиться никогда не поздно».
**11.05 «Маруся. Возвращение»**
**12.15 «А я люблю женатого»**
**13.50** Синематека.
**14.30** Nota Bene.
**15.20, 19.20** Новости региона.
**15.40** «Здоровье».
**16.05** Требуется.
**16.20** «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Звезды реалити-шоу».
**17.10 «Маршрут милосердия»**
**18.00 «Маруся. Возвращение»**
**18.50, 01.15** «Зона Х».
**19.30** Відэафільм АТН «Адвечная песня» цыкла «Зямля беларуская».
**19.55 «Маргоша»**
**21.00** «Панорама».
**21.35** «Командировка».
**21.50** «Славянский базар в Витебске-2011». Дневник.
**22.00** «Славянский базар в Витебске-2011». Конкурс исполнителей эстрадной песни «Витебск-2011». День первый. Прямая трансляция.
**00.25 «Доктор Хаус-5»**
**01.20** День спорта.



**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Смак».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Любительница частного сыска Даша Васильева»**
**11.55** «Детективы».
**12.30** «Живая природа: прямой репортаж».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Счастливы вместе»**
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05 «Хиромант. Линии судеб».**
**22.10** Премьера. Нелли Уварова в фильме **«Атлантида»**. Россия, 2007.
**23.05** «Последний челнок Америки».
**00.00 «Крем»**
**00.45**-01.15 Ночные новости.



**07.00** «ЛАДное утро».
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Ты моя жизнь»**
**09.00** Детектив **«Журов»** (Россия).
**10.00** Альбарутения.
**10.25** «Лабірынты: невядомая Літва». Частка 1-я.
**10.55** Женсовет.
**11.25** Конкурс-викторина «Дети нового поколения». Восьмые классы. Первый полуфинал.
**12.25** Фантастический фильм для детей **«Летние впечатления о планете Z»** 1-я с.
**13.35** Мультсериал **«Маша и Медведь»** (Россия).
**13.50** Пра мастацтва.
**14.15** «Навіны надвор'я».
**14.45** Реальный мир.
**15.10** «Час суда. Дела семейные».
**16.15** Врачебные тайны
**16.45** Врачебные тайны +.
**17.00** Битва экстрасенсов.
**17.55 «Ты моя жизнь»**
**19.00** Детектив **«Журов»** (Россия).
**20.00** Белорусское времечко.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25 «Парни побоку»**
**23.25** Битва экстрасенсов.
**00.20** Реальный мир.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40 «Наши соседи»**
**11.45** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Группа «ZNICH» против группы «НОВА».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «Я-путешественник».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25**«Кинопонедельник»: **«ОТДАЛЁННЫЕ ПОСЛЕДСТВИЯ»**. Россия, 2008г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».



**7:00** Тыдзень у "Аб'ектыве"
**7:30 "Час гонару»**37 серыя
**8:15** Чаму дэмакратыя? 6 серыя: «За Бога, цара і Айчыну»
**9:10** Прыватная калекцыя
**9:35** На колах
**10:05** "Герой года"
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 "Тыдзень з жыцця мужчыны»**
**13:30 "Час гонару»** 37 серыя
**14:15** Чаму дэмакратыя? 6 серыя: «За Бога, цара і Айчыну»
**15:10** На колах
**15:40** Без рэтушы: «Рок назаўжды», дак. фільм: ч. 1
**16:10** Гісторыя пад знакам Пагоні
**16:15** Эксперт
**16:35** «Бульбаны», мультсерыял
**16:50** Вагон
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 "Ранча Піковая Сямёрка»**, серыял: 20 серыя
**17:30 "Час гонару»**37 серыя
**18:15** Чаму дэмакратыя? 6 серыя: «За Бога, цара і Айчыну»
**19:10** Побач з намі
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Калыханка для самых маленькіх
**19:55** «Над Нёмнам»
**20:10** Еўропа сёння
**20:40** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Хто ёсць кім?: «Уладзімір Арлоў»
**21:45 «Проста неверагодна!»**, маст. фільм, , 2001 г., Францыя
**23:25** Аб'ектыў

